№163 (1726)
Аўторак, 2 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, кароткачасовы дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +13...+15, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +13...+15, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Ёсць 5 мільёнаў тон!

Першага верасня хлебаробы краіны сустрэлі важнай падзеяй — намалочана звыш 5 мільёнаў тон збожжа.

Сёлета поспех спадарожнічае хлебаробам Гродзеншчыны. Яны намалацілі 1 мільён 137 тысяч тон збожжа. У іх самая высокая ўраджайнасць. Кожны гектар у сярэднім даў 36,6 цэнтнера зерня.

## Доктар Арда будзе прамываць мазгі?

Пасля таго як **Івана КАРЭНДУ** вызвалілі ад пасады начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, пайшлі чуткі, што яго магчымым пераемнікам стане цяперашні першы сакратар БРСМ (Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі) **Міхаіл АРДА.**

Праўда, вялікага вопыту ідэалагічнай працы ў Міхаіла Арды няма, але ж вядома, што адсутнасць вопыту не з'яўляецца перашкодай пры розных назначэннях у Адміністрацыі кіраўніка дзяржавы. Цікава, што патэнцыяльны кандыдат на месца галоўнага ідэолага па адукацыі ўрач. У 2000 годзе, будучы другім сакратаром Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, змог абрацца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў па Лідскай сельскай акрузе.

Цяпер 37-гадовы намеснік старшыні Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце ўваходзіць у спіс тых сямі дэпутатаў, якіх Аляксандр Лукашэнка прызначыў сваімі неафіцыйнымі прадстаўнікамі ў Палаце.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Запраўляйцеся, калі ёсць грошы

У канцы мінулага тыдня канцэрн "Белнафтахім" сваім загадам №435 зацвердзіў новыя аптовыя і рознічныя, натуральна, больш высокія, цэны на нафтапрадукты.

Цяпер бензін А-76 будзе каштаваць у сярэднім **955** рублёў за літр, 92-і — **1190,** 95-ы — **1370** і дызельнае паліва — **930** рублёў за літр. У сярэднім кошт бензіну і дызельнага паліва ўзрос на 11 працэнтаў.

**Наталля ГАК.**

## Рэўнасць...

А шостай гадзіне вечара 31 жніўня ў бальніцу Дзяржынска са сваёй хаты ў вёсцы Целяшэвічы з сечанымі ранамі галавы быў дастаўлены 30-гадовы мясцовы жыхар, які праз паўгадзіны, не прыходзячы ў прытомнасць, памёр. Як паведамілі БелаПАН ва Упраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі, следча-аператыўнай групай Дзяржынскага РАУС устаноўлена, што загінуўшага а 15-й гадзіне ў спрэчцы, што ўзнікла на глебе рэўнасці, некалькі разоў ударыў сякерай 44-гадовы аднавясковец. Падазроны затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Праводзіцца расследаванне.

Паводле звестак МУС, на працягу мінулых сутак у краіне зарэгістравана 282 злачынствы і 56 здарэнняў. Па лініі крымінальнага вышуку зарэгістравана 226 злачынстваў. Раскрыта 109, раскрывальнасць склала 48,2 працэнта.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Віцебскія ВНУ — непапулярныя?

2,3 чалавека на месца — такім быў сёлета сярэдні конкурс у пяці вышэйшых навучальных установах Віцебскай вобласці. Гэта менш, чым у 2002 годзе, — тады конкурс у ВНУ Віцебшчыны склаў 3,14 чалавека на месца.

Спецыялісты звязваюць зніжэнне папулярнасці ВНУ Віцебскай вобласці са змяненнямі правілаў паступлення. Бо сёлета прыёмныя камісіі перасталі прымаць дублікаты пасведчанняў аб сярэдняй адукацыі.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Папярэджанне партыі Статкевіча

Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла пісьмовае папярэджанне Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Аб гэтым БелаПАН паведаміў яе старшыня Мікола Статкевіч.

Падставай для вынясення папярэджання паслужыла невыкананне сацыял-дэмакратамі патрабаванняў заканадаўства, паводле якога юрыдычны адрас партыі павінен знаходзіцца ў нежылым фондзе, у той час як БСДП (НГ) зарэгістраваная ў жылым памяшканні. Паводле слоў М.Статкевіча, кіраўніцтва БСДП (НГ) неаднойчы спрабавала знайсці ў Мінску нежылое памяшканне для размяшчэння штаб-кватэры. Але раённыя адміністрацыі штораз заяўлялі пра адсутнасць адпаведных памяшканняў.

З гэтай прычыны кіраўніцтвам БСДП (НГ) было прынятае рашэнне аб рэгістрацыі юрыдычнага адраса партыі ў Брэсце, дзе сацыял-дэмакраты маюць офіс у нежылым фондзе. Тым не менш, як зазначыў М.Статкевіч, штаб-кватэра партыі застаецца ў Мінску.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

# На вуліцы...

### *Больш за 120 ліцэістаў пачалі вучобу пад дрэвамі*







*Сонечныя ўсмешкі, кветкі і залівістыя званочкі ў руках — такім помніцца мільёнам суайчыннікаў першы дзень заняткаў у школе. Сонечныя ўсмешкі, кветкі і званочкі — так пачаўся ўчарашнім ранкам Дзень ведаў і для навучэнцаў афіцыйна зачыненага Нацыянальнага беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа ў Мінску. Праўда, з адной істотнай розніцай. Урачыстасць прайшла не як звычайна ў актавай зале, а проста на вуліцы, на фоне замкнёных ліцэйскіх варотаў, за якімі сноўдалі фігуры ў міліцэйскай форме.*

Адзіную і, па сцвярджэнні многіх, лепшую такога кшталту адукацыйную ўстанову ў краіне ўлады ліквідавалі, у будынак нікога не пускаюць. Ліквідавалі? Гэта яшчэ як сказаць... Нішто не змагло перашкодзіць больш як 120 ліцэістам, іх бацькам, настаўнікам і шматлікім нераўнадушным грамадзянам сабрацца каля ліцэя, каб прыгожа і годна адзначыць пачатак новага навучальнага года.

Сярод тых, хто прыйшоў сардэчна падтрымаць калектыў коласаўцаў у змаганні за канстытуцыйнае права кожнага вучыцца на роднай мове, — вядомыя ў краіне людзі: акадэмік Радзім Гарэцкі, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Міхась Скобла, Васіль Сёмуха, Васіль Якавенка, мастакі Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, рэжысёр Валеры Мазынскі, палітыкі Станіслаў Шушкевіч, Людміла Гразнова, генерал-дэпутат Валерый Фралоў, прадстаўнікі дэмакратычных партый.

На тварах дзяцей і дарослых — радаснае ўзрушэнне і хваляванне. Хвалююцца ліцэісты-"ветэраны": хай і ў незвычайных абставінах, але яны зноў сустрэліся з любімымі настаўнікамі, з якімі фактычна і не развітваліся ўсё лета, разам бароняючы Ліцэй. Хвалююцца навабранцы, якія, нягледзячы на дзеянні ўлад, вырашылі вучыцца тут і толькі тут. Міхась Рэуцкі з Фрунзенскага раёна сталіцы стаіць побач са сваёй бабуляй, Кірыл Прапляс прыехаў з бацькам (і будзе ездзіць штодня!) з Дзяржынскага раёна. Абодва хлопчыкі гавораць, што сюды іх прывяла любоў да беларушчыны і высокі ўзровень навучання. Яны хочуць набыць багатыя веды, каб стаць карыснымі сваёй Бацькаўшчыне.

...Знакаміты музыка Уладзімір Пузыня голасам сваёй сурмы абвяшчае пачатак свята. Дзяцей і ўсіх прысутных вітае і віншуе Уладзімір Колас.

— Наш ліцэй ужо зрабіўся любімым Домам для адукаванай патрыятычнай моладзі. Яму, свайму Дому, прысвяцілі выдатны поспех выпускнікі гэтага года: усе яны паступілі ў самыя прэстыжныя ВНУ. І зараз мы не маем права здавацца і, нягледзячы на вялікія выпрабаванні, будзем імкнуцца выхоўваць сапраўдных, узброеных ведамі людзей.

Уладзімір Георгіевіч перакананы, што розум і сумленне пераможуць невуцтва і гвалт, а святло — цемру.

Ліцэіст Павел Супоненка зачытвае Прысягу Ліцэю. Яе, як рэха, паўтараюць усе навучэнцы, што ў фірменных ліцэйскіх майках выстраіліся ўздоўж будынка alma mater на тратуары вуліцы Кірава. "Мы верым, што ліцэй — бясцэнны агмень беларушчыны, які мы прысягаем берагчы і захаваць для нашых дзяцей і ўнукаў!" — ляціць над горадам з дзіцячых вуснаў і сэрцаў. А потым усе спяваюць ліцэйскі гімн і ўзнімаюць над галовамі дзесяткі званочкаў. Іх меладычны перазвон запаўняе прастору... Дзеці кладуць да сцен дарагога ім Дома, уплятаюць у рашотку варотаў і прымацоўваюць да вокнаў букеты кветак, і вуліца расквечваецца ў вясёлкавыя колеры.

Навучэнцы і іх старэйшыя таварышы арганізавана падымаюцца на пагорак супрацьлеглага боку вуліцы і рассаджваюцца вучэбнымі групамі на лавах пад дрэвамі. Тут, у самых незвычайных у свеце "класах" пад адкрытым небам — іх першы ўрок у новым навучальным годзе. Вядуць яго не толькі іх настаўнікі, а і шаноўныя госці — знаныя дзеячы навукі, літаратуры і мастацтва. Ім ёсць што сказаць моладзі, якая свядома абрала шлях да Беларусі і не дазваляе нікому скарыць дух любові і свабоды, які заўжды лунае і будзе лунаць у ліцэіскім асяродку. Хлопчыкі і дзяўчынкі, седзячы купкамі пад дрэвамі, нагадваюць птушанят у гняздзе, што гадуюцца для высокага палёту. Наперадзе ў іх — дзяцей, бацькоў, настаўнікаў — шмат новых выпрабаванняў: упартая, сур'ёзная вучоба ў экстрэмальных умовах. Але яны ўжо даказалі — усім і сабе самім, што яднанне і сіла духу — непераможныя.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА,**
**Алесь СІЛІЧ.**

**На здымках:** злева — *твор скульптара Алеся Шатэрніка "Якуб Колас — настаўнік"; акадэмік Радзім Гарэцкі не мог не прыйсці на гэтае свята; міліцыянеры не перашкаджалі вучобе дзяцей.*

**ТРАГЕДИЯ**

# Пенсия ценою в жизнь

*Город Копыль Минской области гудит, как растревоженный улей. Жители до сих пор не могут поверить в то, что такое жуткое преступление совершил человек, который жил рядом с ними...*

В один из августовских дней пропала 19-летняя девушка-почтальон. В полдень на велосипеде повезла в близлежащую деревню корреспонденцию и пенсии, а вечером не вернулась домой. В сумке девушки было 770 тысяч белорусских рублей. По деревенским меркам, сумма огромная. А по сути копейки...

Тревогу забили родители девушки. Вечером того же дня они обратились за помощью в милицию. Но первые поиски, к сожалению, ни к чему не привели. Девушки не оказалось ни на работе, ни у родственников, ни у подруг, ни у знакомых. Из Минска в Копыль приехало областное начальство, розыскные мероприятия возглавил подполковник милиции, начальник розыскного отделения УВД Миноблисполкома Владимир Жильчик.

На протяжении нескольких дней сотрудники милиции, солдаты из подразделений органов внутренних дел прочесывали близлежащие леса, обследовали каждый метр земли. Копыляне с замиранием сердца следили за милицейскими сводками. Но результатов не было. Спустя 10 дней после случившегося прокуратурой города Копыля было возбуждено уголовное дело по факту без вести пропавшей 19-летней девушки.

И вдруг в Копыльское районное отделение милиции поступило заявление от жительницы деревни Вошкаты, куда в тот злосчастный день молодой почтальон везла пенсию. Женщина рассказала, что ее муж во время очередного домашнего скандала пригрозил ей, что убьет и закопает рядом с почтальоном. "Послужной список" сказавшего это был богат: в 1996 году он был осужден на 10 лет лишения свободы за совершение краж в особо крупных размерах, но попал под амнистию и полтора года назад вернулся домой. Все это время мужчина нигде не работал, пил и скандалил.

Той же ночью подозреваемого задержали. Он был пьян и сопротивления работникам милиции не оказал. Позже мужчина признался в том, что убил девушку, показал место, где закопал ее, и рассказал, где спрятал деньги.

Сотрудники прокуратуры Копыля не хотят говорить о том, как было совершено преступление. "Страшно даже представить, что пришлось пережить девушке, — говорит прокурор города Владимир Полещук. — Смерть не была мгновенной, убийца душил ее... Закопал на лугу неподалеку от лесного массива. Раньше там закапывали павшую скотину..."

Следствие продолжается. "Суд состоится нескоро, — поясняет Владимир Полещук. — Нужно собрать все материалы, чтобы доказать вину подозреваемого в убийстве, провести психиатрическую экспертизу. Уголовное дело возбуждено по статье 139 ч 2 Уголовного кодекса "Убийство при отягчающих обстоятельствах из корыстных побуждений". Наказание по этой статье — лишение свободы сроком до 25 лет или смертная казнь".

К сожалению, а это признают все сотрудники милиции и прокуратуры, с которыми пришлось разговаривать, — данный случай по своей жестокости не исключительный. Издевательства над людьми становятся все изощреннее. Убить могут из-за 20 тысяч. Такой случай произошел в Жлобине, когда два наркомана в момент ломки убили незнакомую девушку, труп расчленили и выбросили в мусоропровод. У жертвы в кармане было 20 тысяч белорусских рублей...

В милиции считают, что нужно поднимать вопрос о защите госслужащих. Допустимо ли в наше дикое время поручать женщине развозить на велосипеде по нескольким деревням энную сумму денег, "вооружив" ее газовым баллончиком? Трудно предположить, что милиция сможет сопровождать каждого почтальона и разносчика пенсий. Она только сможет в случае трагедии искать грабителя и убийцу. Прокурор города Копыля Владимир Полещук говорит, что в служебной аналитической записке он, безусловно, обратит на это внимание. Но для родителей 19-летней девушки это уже не имеет никакого значения, ни одно запоздалое решение не вернет им дочь...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**ВІНШУЕМ!**

## З гадавінай, інтэрнет-газета!

*1 верасня інтэрнет-газеце "Белорусские новости" споўніўся год. Гэта — адзіны ў айчынным Інтэрнэце праект, які можа лічыцца онлайнавым грамадска-палітычным выданнем.*

Сайт быў запушчаны інфармацыйнай кампаніяй БелаПАН улетку 2002 года, а з 1 верасня мінулага года — і гэтая дата стала афіцыйным днём нараджэння праекта — рэсурс, размешчаны па адрасе www.naviny.by, перайшоў на поўны он-лайн. Сайт абнаўляецца ў рэжыме рэальнага часу з раніцы да позняга вечара без выхадных, аператыўна адлюстроўваючы і каменціруючы галоўныя падзеі дня.

Паводле слоў галоўнага рэдактара інтэрнет-газеты А.Класкоўскага, "Белорусские новости" — гэта не толькі навіны самі па сабе. Упор робіцца на аналітычныя матэрыялы, для падрыхтоўкі якіх прыцягнуты шэраг знакамітых экспертаў. З "Белорусскими новостями" пастаянна супрацоўнічаюць вядомыя палітолагі Валерый Карбалевіч, Андрэй Фёдараў, Уладзімір Роўда, эканамісты Яраслаў Раманчук, Леанід Заіка, Валерый Дашкевіч, Аляксандр Патупа, а таксама гісторыкі, сацыёлагі, псіхолагі, культуролагі. Свой уласны праект "Задумаемся разам" вядзе ў "Белорусских новостях" паэт і публіцыст Генадзь Бураўкін. Другі вядомы літаратар — Міраслаў Адамчык — быў прадстаўлены наведвальнікам сайта ў некалькі нечаканым ракурсе — як аўтар flash-анімацый.

**Аляксандр ЗАЙЦАЎ.**

### *Зварот грамадзянскай ініцыятывы «Рада беларускай інтэлігенцыі»*

# Абаронім беларускі ліцэй!

**Шаноўныя суайчыннікі!**

Ліквідацыя Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа (НДГЛ) найбольш выразна выявіла антынародную сутнасць беларускіх уладаў, яшчэ раз пацвердзіла, што яны не жадаюць кіравацца ні законамі, ні інтарэсамі грамадзянаў, чыю волю абавязаныя выконваць. Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 чэрвеня 2003 г. № 850 знішчаецца унікальная ўстанова, дзе беларускія дзеці атрымлівалі адукацыю на ўзроўні сусветных стандартаў, на роднай беларускай мове — па законе і па сутнасці дзяржаўнай мове нашай краіны. Звольненыя з працы высокапрафесійныя выкладчыкі — выдатныя прадстаўнікі педагагічнай і творчай інтэлігенцыі Беларусі. Гэта адбываецца насуперак волі дзяцей, іхных бацькоў, настаўнікаў, шырокіх колаў грамадскасці.

**Пастанова Савета Міністраў не мае абгрунтавання прычынаў ліквідацыі і парушае дзейнае заканадаўства аб правах бацькоў і дзяцей, а менавіта артыкулы 49, 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і 51 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", якія гарантуюць даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй адукацыі, даюць права выбару ўстановы адукацыі і мовы навучання; артыкул 13 Міжнароднага пакту "Аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах" ААН, артыкулы 2,3 і 30 Канвенцыі ААН "Аб правах дзіцяці". Паводле канвенцыі ААН "Аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі" ад 14.12.1960 беспадстаўную ліквідацыю Ліцэя трэба ацэньваць як дыскрымінацыю па моўнай і нацыянальнай прыкметах у галіне адукацыі.**

Сёння будынак ліцэя акупаваны міліцыяй і АМАПам. Улады спрабавалі праз ціск і падман раскідаць здольных, адабраных праз конкурс вучняў па школах, дзе няма ліцэйскіх праграмаў і выкладання ўсіх прадметаў на беларускай мове. Аднак ужо сёння абсалютная бальшыня бацькоў — 140 сем'яў з 159 — не пагадзілася з ганебнымі прапановамі і пацвердзіла волю змагацца за правы сваіх дзяцей. Пацвердзілі гатоўнасць вучыць дзяцей у любых умовах і педагогі. 1 верасня яны пачалі заняткі пад адкрытым небам.

**Мы выказваем глыбокую павагу настаўнікам Ліцэя, бацькам, ліцэістам. Сёння яны паказваюць усім нам прыклад паводзінаў сапраўдных беларускіх інтэлігентаў. Калі б гэтаксама цвёрда трымаліся дзяржаўныя чыноўнікі ад адукацыі, навукоўцы, выкладчыкі, журналісты дзяржаўных СМІ, якіх улада прымушае выконваць ганебныя загады, — у рэжыма даўно не было б перспектывы.**

**За ліквідацыю Ліцэя нясуць адказнасць не толькі Лукашэнка і Навіцкі, але персанальна доктар навук, прафесар (!), былы міністр П.Брыгадзін, намеснікі міністра А. Жук і К.Фарына, адукацыйныя чыноўнікі — былыя настаўнікі (!) — У.Шчэрба, М.Ціцянкоў, А.Воранаў, кіраўнік гарадской "вертыкалі" М.Паўлаў, міліцэйскія начальнікі і іншыя.**

Менавіта імкненнем навязаць нашым дзецям "новую дзяржаўную ідэалогію", цягнуць Беларусь назад у "вялікую і непадзельную" імперыю, дзе адзінай дзяржаўнай мовай была руская мова, тлумачыцца рашэнне аб ліквідацыі ліцэя.

Але сітуацыя вакол ліцэя сведчыць пра слабасць уладаў, іхную няздольнасць выканаць задуманае. Новы "гарадскі ліцэй", які меў утварыцца замест ліквідаванага нацыянальнага і зрабіцца "самай лепшай навучальнай установай" Беларусі, дагэтуль так і не створаны. Рамонт будынка, які меў скончыцца да пачатку навучальнага году, яшчэ нават не распачаты. Ствараць гэтая ўлада не можа ў прынцыпе. Яна можа толькі знішчаць.

**Мы звяртаемся да тых прадстаўнікоў педагагічнай інтэлігенцыі, якіх улады спрабуюць зрабіць саўдзельнікамі злачыннай ліквідацыі асяродку беларушчыны, — дырэктараў школаў і гімназіяў, па якіх прапануецца размеркаваць ліцэістаў; настаўнікаў, якім прапануюць працу ў віртуальным "гарадскім ліцэі"; шэраговых супрацоўнікаў упраўленняў адукацыі, чыімі рукамі ўлады хочуць прымусіць бацькоў здацца: Калегі, не будзьце штрэйкбрэхерамі! Адмоўцеся ад ганебных прапановаў, ухіліцеся ад выканання незаконных і антыбеларускіх загадаў, захавайце сумленне — і абавязкова настане дзень, калі ваш учынак будзе ацэнены беларускім народам.**

Рада беларускай інтэлігенцыі заклікае ўсіх, у каго ёсць сумленне і годнасць, падтрымаць навучэнцаў і настаўнікаў Ліцэя не толькі словам, але і справай.

Дасылайце вашыя лісты з патрабаваннем адмены Пастановы № 850 аб ліквідацыі Ліцэя Аляксандру Лукашэнку, старшыні Савета Міністраў, міністру адукацыі, гарадскім уладам.

Дапамагайце Ліцэю ў пошуках памяшканняў для заняткаў, фінансавых сродкаў, падручнікаў, слоўнікаў, энцыклапедыяў, камп'ютэраў, іншых тэхнічных сродкаў навучання, паперы.

**Наш абавязак — зрабіць так, каб Ліцэй выстаяў. Будучыня Ліцэя — будучыня Беларусі.**

ПУЛЬС

## Навучэнцы Віцебскай вобласці будуць прыцягвацца да ўборкі ўраджаю

Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне накіраваць на ўборку ўраджаю больш за пяць тысяч студэнтаў ВНУ, а таксама навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў рэгіёна. Адпраўка студэнтаў у гаспадаркі вобласці пачнецца 3 верасня, працоўная "сесія" будзе доўжыцца не больш за месяц.

Згодна з рашэннем аблвыканкама, гарадскім і раённым выканкамам дазволена таксама прыцягваць да сельгасработ вучняў старэйшых класаў агульнаадукацыйных школ тэрмінам не больш чым на два тыдні. Сёлета 15 раёнаў вобласці маюць намер выкарыстоўваць моладзь пры ўборцы ўраджаю. Найбольшая колькасць студэнтаў (1135 чалавек) адправяцца дапамагаць гаспадаркам Віцебскага раёна. Гаспадаркам далі права самастойна вызначаць парадак і ўмовы аплаты працы моладзі, пры гэтым яны абавязуюцца гарантаваць памочнікам бяспечныя ўмовы працы, побыт, харчаванне і выплату заробку.

Пасля заканчэння ўборачных работ у навучальных установах павінны прайсці вечары працоўнай славы. Каардынаваць палявую дзейнасць моладзі будзе абласны штаб на чале з намеснікам старшыні аблвыканкама Пятром Южыкам.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## Энтэраінфекцыю — на індывідуальны ўлік

Усе віды энтэравіруснай інфекцыі будуць узяты на індывідуальны ўлік: кожны выпадак захворвання будзе разглядацца па экстранным паведамленні. Пра гэта заявіў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі Валерый Ключановіч.

Такім чынам, паводле яго слоў, гэты эпідэмічны працэс будзе падпарадкаваны дакладнаму кантролю. "Калі грып рэгіструецца "пачкамі", то на працягу найбліжэйшых двух гадоў будзе праводзіцца ацэнка кожнага выпадку энтэравірусу", — сказаў прадстаўнік Міністэрства аховы здароўя. — Гэта даволі затратная рэч, аднак яна неабходна пры такой актывізацыі інфекцыі".

За сем месяцаў гэтага года пад'ём захворвання на энтэравірусную інфекцыю быў адзначаны ў Гродне, дзе захварэлі 205 чалавек, у Белаазёрску (Брэсцкая вобласць) — 71 чалавек, у Маладзечне (Мінская вобласць) — 25 чалавек, у Гомелі — 29 выпадкаў, у Мінскім раёне — 22 выпадкі, у Кобрынскім раёне (Брэсцкая вобласць) — 18 выпадкаў. У Мінску зарэгістраваны 362 выпадкі захворвання на энтэравірусную інфекцыю. Цяпер у Мінску штодзённа рэгіструецца 5-15 выпадкаў.

В.Ключановіч падкрэсліў, што зараз уведзена абавязковае лабараторнае даследаванне на базе абласных цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі ўсіх відаў захворванняў, пры якіх ёсць падазрэнне на вірусную этыялогію. Для правядзення такой дыягностыкі кожнай вобласці неабходна закупіць не менш за тры апараты. Кошт аднаго такога апарата складае каля 50 тысяч долараў ЗША.

## Атруціліся грыбамі

**У Беларусі адзначаецца рост колькасці выпадкаў атручэння грыбамі.**

Пра гэта паведаміў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі **Валерый Ключановіч**. Паводле яго слоў, за сем месяцаў гэтага года было зарэгістравана 78 выпадкаў атручэння грыбамі, а за аналагічны перыяд 2002 года — 27 выпадкаў. У Мінску адзначана 28 выпадкаў атручэння і па 15—20 выпадкаў у кожнай вобласці краіны, у тым ліку з двума лятальнымі зыходамі — у Столінскім раёне Брэсцкай вобласці.

У асноўным атручэнні адбываліся з-за ўжывання ў ежу белых паганак.

Як адзначыў Ключановіч, моцнадзеючыя яды, што ўтрымліваюцца ў неядомых грыбах, не разбураюцца пры кулінарнай апрацоўцы. Захворванне, як правіла, пачынаецца раптоўна і часцей за ўсё ноччу, праз 3—12 гадзін пасля ўжывання грыбоў. Першымі сімптомамі з'яўляюцца боль у жываце, нястрымная рвота, панос, слабасць, галаўны боль, пасля могуць з'явіцца сутаргі, галюцынацыі і трызненне. Смяротны зыход пры выпадках атручэння неядомымі грыбамі дасягае 25-50 працэнтаў. Каб пазбегнуць атручэння грыбамі, неабходна ведаць меры прафілактыкі, падкрэсліў В.Ключановіч. Так, трэба збіраць толькі ядомыя грыбы, якія не выклікаюць сумнення, сарціраваць і перабіраць іх адразу, не купляць грыбы на аўтатрасах, а кансерваваныя — у прыватных асоб. Пры першых сімптомах атручэння трэба неадкладна звярнуцца па медыцынскую дапамогу.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Недалёка і да пажару

**Жыхары шэрагу вёсак Баранавіцкага раёна не спяшаюцца рамантаваць аварыйныя печы і электраправодку**

Больш за 35 тысяч парушэнняў правіл супрацьпажарнай бяспекі выяўлены спецыялістамі Баранавіцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях падчас выканання рашэння райсавета "Аб працы па забеспячэнні абароны насельніцтва ад надзвычайных сітуацый".

У 2003 годзе праверaны больш за дзевяць тысяч жылых дамоў і выяўлены больш за 35 тысяч парушэнняў правіл супрацьпажарнай бяспекі (да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 26 чалавек). У 346 жылых дамах неабходны рамонт пячнога ацяплення, у 417 патрабуецца рамонт электраправодкі. І калі ўладальнікі большасці дамоў у стане аплаціць рамонт, дык адзінокім састарэлым людзям і інвалідам гэта не пад сілу. 23 такія дамы маюць патрэбу ў рамонце печаў, 47 — у рамонце электраправодкі. Гэтыя звесткі перададзены ў райвыканкам для вырашэння пытання аб фінансаванні работ.

Нягледзячы на пагрозу жыццю, шматразовыя напаміны і загады супрацоўнікаў Баранавіцкага аддзела па надзвычайных сітуацыях, дагэтуль не адрамантаваныя печы і электраправодка ў дамах Калпеніцкага, Паланячкоўскага, Сталовіцкага і Мілавідскага сельсаветаў.

**Таццяна ГРЫНКЕВІЧ.**

# Дым надзей

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**

Я лічу, што дзяржаўная ідэалогія сама па сабе патрэбна, але яна павінна зыходзіць ад народа: яго імкненняў, творчага духу, нацыянальнай свядомасці. Але ў нас зусім іншае. Усё навязваецца зверху, ды і наогул не гаворыцца, якая ідэалогія маецца на ўвазе. Тым больш што ёй фактычна наканавана быць нямой — пра адраджэнне беларускай мовы ні слоўца не сказана. Больш за тое, урад прыняў усе захады (вядома па загадзе якога чыноўніка), каб закрыць адзіны ў краіне Нацыянальны беларускі ліцэй. Ужо адно гэтае перакрэслівае ўсе "заяўкі" адрадзіць беларускую ідэалогію пад эгідай дзяржавы. А без гэтага яна будзе пустой і нядзейснай балбатнёй.

Між тым падчас святкавання 59-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў А.Лукашэнка чытаў даклад на роднай мове. І вымаўляў словы значна лепей, чым на мове суседзяў. Хто слухаў, той думаў, напэўна: мо нарэшце прыйдзе свята на беларускую зямлю? Але, на жаль, гэта быў кароткі эцюд пускання дыму надзей у вочы беларусаў. Так што заклікаць прапагандысцкі апарат даходзіць да людзей, гаварыць з кожным чалавекам — пусты пасаж. Калі гаварыць, то пра што? Пра тое, што цэны растуць, што з пенсіянераў знялі ільготы, што 2 мільёны чалавек жывуць ніжэй рысы беднасці? Але ж гэта не ў інтарэсах улад.

Калі не прамая, дык ускосная інфармацыя пра намеры ўрада і яго кіраўнікоў паступае для народа ўвесь час. Насельніцтву застаецца гадаць, з чаго б гэта? Так, пасажыры метро былі здзіўлены, што станцыю метро "Плошча Незалежнасці" раптам сталі аб'яўляць як "Плошча Леніна". Пры гэтым уладамі было дадзена бязглуздае тлумачэнне: маўляў, плошча была перайменавана, а на перайменаванне станцыі рашэння няма... Ну, ці не смешна? Калі гэта нават і так, то — звядзенне канцоў з канцамі ў дадзеным выпадку — справа папяровая, не патрабуючая ніякіх высілкаў і выдаткаў. Канешне, хто гэтаму паверыў? Тым больш што пад гэты час быў ганебна закрыты беларускі ліцэй. І гэта — не супадзенне, бо ўслед за перайменаваннем станцыі метро ёсць, пэўна, намер перайменаваць і плошчу. Надта ж муляе вядома каму слова "Незалежнасць". Але як жа тады разумець запэўніванне А.Лукашэнкі, што ён — гарант і змагар за незалежнасць Беларусі?

Пэўна, ва ўлад ёсць намер вярнуцца да старой назвы. Але хто такі Ленін для Беларусі? Хіба не па яго загадзе аддалі Беларусь кайзераўскай Германіі ў 1918 годзе аж па Оршу ў заклад за рэпарацыі? Няўжо без згоды Леніна па Рыжскай мірнай дамове 1920 г. перадалі Польшчы Заходнюю Беларусь з карэнным беларускім насельніцтвам? Дарэчы, без усялякай згоды і ўдзелу самой Беларусі. А яшчэ адарвалі ад нас і далучылі да Расіі Віцебшчыну, Магілёўшчыну і Гомельшчыну. Праўда, у 1924 і 1926 гадах вярнулі, але не ўсе беларускія землі. Менавіта пад кіраўніцтвам Леніна была ўтворана Беларуская саюзная рэспубліка ў складзе толькі адной Мінскай вобласці.

І імем гэтага чалавека мы дагэтуль павінны называць плошчу сталіцы?! Якая непавага да саміх сябе? Дзе ж наш гонар? Дзе памяць пра тых слынных сыноў і дачок Бацькаўшчыны, якія аддалі свае жыцці за незалежнасць Беларусі?

Ёсць у грамадстве праблемы, вырашэнне якіх аніяк нельга ператвараць у нейкую кампанію, падымаючы вакол іх час ад часу інфармацыйны бум. Гэта датычыцца і платы сялянам за малако і мяса, ліквідацыі запазычанасцяў па зарплаце, тым больш навядзення парадку на вуліцах і ў дварах. Трэба, каб на месцах чыноўны люд і гаспадарнікі штодня, мэтанакіравана, а не пакампанейску займаліся канкрэтнай справай. А то кампаніі праходзяць, а праблемы застаюцца. І застаюцца менавіта таму, што для іх кардынальнага вырашэння не ствараюцца эканамічныя ўмовы: лібералізацыя, рэструктурызацыя, дэмакратызацыя. Таму і атрымліваецца, што праз пэўны час пасля шуму і грому трэба зноў пачынаць штурм і адміністрацыйны трэск.

Ва ўмовах "працвітання", а правільней — эканамічнага правалу і пагаршэння ўзроўню жыцця многіх нашых грамадзян не могуць не трывожыць выказванні А.Лукашэнкі аб тым, што ён не выключае магчымасці пры пэўных умовах ісці ў трэці раз на прэзідэнцкія выбары. Але як можна закранаць гэтае пытанне, калі ўсе бачаць: нічога путнага за дзевяць гадоў не зроблена. Гаварыць па тэлебачанні ці не штодня — не азначае плённа кіраваць краінай. На гэты конт заўважыў неяк Уінстан Чэрчыль: "Нельга гаварыць разумна, калі гаварыць многа".

На жаль, многае сёння робіцца не дзеля пільнай агульнанароднай патрэбы, а дзеля прэстыжу ўлад. Узорам гэтага — пабудова пампезнай Нацыянальнай бібліятэкі на ўскрайку горада. Чаму так прыспічыла? Можна было б зрабіць рэканструкцыю дзеючай бібліятэкі і каштавала б гэта не сотні мільярдаў рублёў, якіх няма, а значна танней.

Ніхто не супраць мець ці не самую лепшую бібліятэку ў Еўропе, але дзеля яе ўзвядзення дзяржава мусіць збіраць у свайго збяднелага народа грошы на будоўлю. Зрабіў унёсак і я. Але... У краіне — вялікія цяжкасці з жыллём, ці не лепш было б пусціць грошы на гэтую першачарговую патрэбу?

...Метастазы інфармацыйнага дыму адміністрацыя краіны імкнецца пашырыць на суседзяў. І тут не было б нічога дрэннага, калі б распаўсюджвалася праўда, а не яе імітацыя. Запрашэнне расійскіх журналістаў з перыферыі не толькі каштавала немалых сродкаў беларускаму падаткаплацельшчыку, але галоўнае, каштавала таго, што госці не даведаліся пра сапраўднае жыццё краіны, у якой пабывалі. Маўляў, вопыт пераймайце. Вось і да гэтага часу ламаюць галаву нашы грамадзяне: дзеля чаго прыязджалі правінцыяльныя расійскія журналісты? Каб заручыцца падтрымкай у аб'яднанні з Расіяй? Але з кім аб'ядноўвацца — з тым хаосам, які назіраецца ў суседняй краіне, з неўтаймаванай расійскай карупцыяй? Дык куды нас цягнуць?

У гэтых умовах, можа, варта накіраваць беларускі журналісцкі "дэсант" у рэгіёны Расіі, каб, убачыўшы тамтэйшы раздрай, землякі сказалі ўсю праўду чытачу нашай краіны, якую цягнуць у "Саюз"? Але дзе там, якія дзяржаўныя СМІ Беларусі прапусцяць такое?

Густы туман прыцьмявае і глыбокія эканамічныя праблемы, якія ўсё не вырашаюцца. Перадусім маецца на ўвазе аграрная праблема. Колькі год ідуць размовы аб аграрнай рэформе, аднак воз і зараз на месцы. Апрацоўваемыя плошчы зямлі скарачаюцца, скарачаецца пагалоўе жывёлы, вытворчасць малака і мяса. Калі прайсці па крамах, то на прылаўках можна пабачыць прадукты, імпартаваныя якраз з тых краін, дзе развіваецца фермерская гаспадарка, дзе прыватызаваная зямля. Дык у чым справа? Чаму нам не скарыстаць вопыт суседзяў і не дасягнуць харчовай бяспекі? Адказу на гэтае пытанне кіраўніцтва на дае. А людзі жывуць у нявызначанасці, хвалююцца: што ж будзе заўтра?

Між тым пры рацыянальным падыходзе аграрная праблема можа быць вырашана паспяхова. Па-першае, трэба захаваць усе моцныя буйныя гаспадаркі, якія прыстасаваліся да рынку. Аказаць ім усебаковую фінансавую (а не толькі крэдытную) падтрымку. Праўда, трэба правесці арганізацыйную перабудову, зрабіць працуючых уласнікамі. Па-другое, распусціць усе стратныя і разваленыя гаспадаркі. Утварыць фермерскія гаспадаркі і аказваць ім такую ж дапамогу, як і буйным дзяржаўным ці акцыянерным. Падтрымаць іх канцэнтрацыю і цэнтралізацыю, каб на гэтай аснове ва ўмовах канкурэнцыі ўтвараліся буйныя эфектыўныя вытворчасці. Па-трэцяе, перагледзець закупачныя цэны на сельгаспрадукты, каб хлебароб ці жывёлавод абавязкова атрымліваў менавіта сваю долю ствараемай вартасці, а не бясконца чакаў, калі дзяржава ў чарговы раз павысіць цэны.

Словам, дзяржава павінна дзейнічаць такім чынам, каб рассеяць дым вакол людскіх надзей, каб грамадзяне адчулі упэўненасць у будучым, у тым, што іх мары аб лепшым жыцці — не фантомныя.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Как людей загоняют в послушный профсоюз

О странных нравах, которые нынче процветают в Федерации профсоюзов Беларуси и Министерстве промышленности страны, сообщается на сайте Praca by.

Так, 28 августа в штаб-квартире ФПБ состоялось очередное заседание президиума совета Федерации. На нем, в частности, рассматривался вопрос о приеме в ФПБ недавно созданного Белорусского профсоюза работников промышленности. В ходе дискуссии по этой проблеме председатель Белорусского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения Александр Бухвостов заявил о том, что "ведется работа "по загону людей в новый профсоюз". Сообщить о фактах давления на людей попытался председатель Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности Геннадий Федынич. Однако ни ему, ни председателю Белорусского профсоюза работников энергетики, электротехнической и топливной промышленности Галине Южаниной председатель ФПБ Леонид Козик слова не дал. После этого лидер профсоюза РЭП покинул зал заседаний.

Министерство промышленности в свою очередь использует неприглядные методы, пытаясь заставить присоединиться к недавно созданному Белорусскому профсоюзу работников промышленности профсоюзные организации Белорусского профсоюза работников оборонной промышленности, пишет газета "Беларускі час" в статье "Оборонка" вынуждена обороняться" (№56, 2003). По мнению автора этой публикации, разжигание конфликтов присуще тем, кто не нашел иного, более достойного способа убеждения. И именно этим грешат некоторые работники Министерства промышленности, накаляя страсти, пробуя противопоставить руководителя предприятия и председателя профкома. "Если попытаться сломать налаженный механизм "оборонки", вряд ли когда-либо получится наладить его работу так точно, как сейчас", — считает председатель Белорусского профсоюза работников оборонной промышленности Николай Савенко.

Заместитель министра промышленности Иван Золоторевич, отвечающий в Минпроме за идеологию, активно проводит работу, направленную на ликвидацию профсоюза работников радиоэлектроники, сообщили в республиканском совете этого профсоюза. 26 августа в Витебске и 27 августа в Минске Иван Золоторевич провел совещания с директорами предприятий и организаций радиоэлектронной промышленности. На них обсуждалась проблема, как "загнать" работников отрасли в недавно созданный Белорусский профсоюз работников промышленности. И сделать это хотят до 4 сентября. В свою очередь руководители предприятий вынуждены, отложив в сторону вопросы производства, выполнять это указание, настойчиво "советуя" председателям профкомов выполнить требование Минпрома. А с теми, кто ослушается, не продлят контракт, не выделят кредит, пришлют дополнительную проверку, ликвидируют госзаказ и т.д.

СКАНДАЛ

## Не обошлось без афер

*Комитет государственного контроля обнаружил нарушения в использовании средств дорожного фонда при строительстве, реконструкции и капитальном ремонте Минской кольцевой автомобильной дороги*



Известно, какое внимание уделял этой "стройке века" А. Лукашенко. В итоге дорожники постарались и удовлетворили первое лицо государства в его заботах. Проезжая со свитой по новехонькой трассе, он даже объявил ее образцовой. В смысле, что такой должна стать любая дорога транзитной страны, расположенной в центре Европы.

И все бы хорошо, строители получили свои моральные и материальные поощрения, не вмешайся в дело Комитет государственного контроля, который заинтересовался эффективностью использования средств республиканского дорожного фонда. И, как нам сообщил специалист этого ведомства, пожелавший остаться неизвестным, в полной мере эффективным их использование не было. А точнее, по многим видам работ и закупок материалов смета была завышена. Так, уже в ходе проектирования объектов МКАД РУП "Белгипродор" в проектно-сметную документацию включило расходы на содержание заказчика в размере 2,55% от полной сметной стоимости строительства, реконструкции и капитального ремонта объектов вместо 1,5%, предусмотренных нормативными актами Минстройархитектуры. В результате за 1999—2002 гг. было израсходовано на 820,6 миллиона рублей больше необходимого.

Как отметили контролеры, заключение договоров подряда (субподряда) на выполнение работ и закупка оборудования в большинстве случаев осуществлялись без проведения тендеров либо с нарушением правил их проведения. А всякая "бестендерная" сделка внушает подозрение в чистоте помыслов партнеров.

С другой стороны, на всех тендерных торгах 2002 года победителем по установке барьерных ограждений было признано ЗАО "Евротракт" (г. Фаниполь). Заказчиком — РУП "Магистральавтодор" было выдвинуто обязательное требование — наличие лицензии на установку барьерных ограждений. Единственной в Беларуси организацией, имеющей такую лицензию (выдана департаментом "Белавтодор" и подписана лично А. Мининым — директором департамента и руководителем штаба по координации работ по развитию МКАД), оказался "Евротракт". А ведь, как отметили проверяющие, лицензирование работ по установке барьерных ограждений не требуется законодательством.

Выходит, что сами устранили возможных конкурентов фанипольской фирмы. Зачем — непонятно. Но в итоге стоимость поставленных из России барьерных ограждений увеличилась на 25% (800 миллионов рублей) по сравнению с ценами заводов-изготовителей. Кроме того, вместо поставки оцинкованных барьерных ограждений, что предусматривалось сметой, допускались поставки и неоцинкованных элементов, в результате чего уже через год эксплуатации крепеж ограждений стал ржаветь.

Многочисленные нарушения отмечены при закупке строительными трестами нефтепродуктов. В этом деле, опять же через посредников, поучаствовали 19 фирм-"однодневок" (указанные в товарно-сопроводительных документах данные о более полусотни перевозчиках (номера автомобилей) не соответствовали действительности.

Короче, полная финансовая неразбериха или сознательно организованный хаос, поди разберись. Но контролеры установили, что сумма неэффективно израсходованных средств участниками реконструкции и капитального ремонта МКАД составила более чем 5,6 миллиарда рублей, в бюджет подлежат возврату 830 миллионов, а исключение посредников при закупке материально-технических ресурсов позволило бы сэкономить около миллиарда рублей.

Кроме того, отмечают контролеры, руководство "Магистральавтодора" не скупилось на повышение зарплаты самим себе. Поэтому за 2001—2002 годы общая сумма превышения выплат по заработной плате работников аппарата управления РУП "Магистральавтодор" (штатная численность 53 единицы), отнесенная предприятием на себестоимость, сверх нормативного уровня составила 43,3 миллиона рублей, а с учетом начислений на заработную плату — 60,6 миллиона. Соответственно были занижены налогооблагаемая прибыль и налог на прибыль.

Сколько шума было по случаю введения в действие кольцевой дороги! Но вот результат получился, как всегда, не очень хороший. Как отметила комиссия, на МКАД не в полной мере обеспечивается безопасность дорожного движения. Всего с ноября 2002 по май 2003 года на кольцевой зарегистрировано 33 ДТП, в результате которых погибло 17 и ранено 19 человек. При этом 19 ДТП совершено в темное время при отсутствии дорожного освещения. Наибольшее число летальных исходов (8 человек) произошло по причине перехода пешеходами проезжей части автодороги в местах, не имеющих обустроенных пешеходных переходов, что свидетельствует о просчетах при проектировании объектов дороги.

Дорога была принята с оценками "хорошо" или "отлично", но, как известно, на некоторых участках МКАД уже ведется ремонт. Оказалось низким качество асфальтобетонного покрытия.

Впрочем, иного и быть не могло. Всякое завершение строительства у нас означает начало ремонта.

Лучше не умеем и, похоже, не хотим.

**Виктор КУРПАЧЕНЯ.**
**Фото из архива IREX/ProMedia.**

# Мёртвым не баліць. А жывым?

Усё лета ў Мазыры адмысловае падраздзяленне 52-га асобнага пошукавага батальёна Упраўлення ўвекавечання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяраў войнаў Міністэрства абароны вядзе раскопкі месцаў масавых расстрэлаў.

— Падчас раскопак брацкай магілы ахвяраў Першай сусветнай вайны, — кажа камандзір роты, старшы лейтэнант Аляксандр Трубека, — ва ўрочышчы Рамашоў роў, недалёка ад педагагічнага універсітэта, мы адшукалі цывільныя могілкі XYIII—XIX стст. Яшчэ адно пахаванне адкапалі на схіле пагорка блізу Кургана Славы. Тут у 1941-1942 гадах фашысты расстралялі каля тысячы мірных жыхароў.

Відовішча ў адрытым шурфе жахлівае. Людскія шкілеты ляжаць адзін на адным, нібы паленні на дрывотні. Косці ног аднаго з загінуўшых дагэтуль у гумовых галёшах. Відавочна, у апошнюю хвіліну свайго жыцця мужчына быў абуты ў валёнкі ці буркі. Тыя буркі згнілі, а галёшы так і засталіся на нагах.

На салдатаў, якія вядуць раскопкі, пошукі парэштkaў ахвяраў аказваюць вельмі моцнае ўражанне.

— Я сам адкопваў тут шкілеты, — кажа салдат-другагодак з Салігорска Андрэй Нямковіч. — Вельмі цяжка мне глядзець на гэта ўсё. Адразу ў маім сэрцы нешта пачынае шчымець. Уяўляецца, як раней гэта было, як людзі пакутавалі, гінулі.

Пра ямы з ахвярамі блізу Кургана ведалі многія мазыране і жыхары ваколіц. 72-гадовая Марыя Селязнёва (Арцюшэнка), якая ў дзень майго прыезду пасвіла непадалёку ад раскопак невялічкі статак коз, распавяла, што ў вайну яна з маці з вёскі Бабры (цяпер гэта аднайменны мікрараён Мазыра) хадзіла ў горад дарогаю паўз свежазасыпаныя ямы. Дзесяцігадовае дзяўчо на ўсё жыццё запомніла, як з пяску тырчалі рукі, ногі забітых. Іх цягалі сабакі. Маці плакала і казала Марыйцы, што немцы пабілі шмат нявінных людзей і асабліва габрэяў. Запомніліся Марыі і тлумачэнні. Габрэі нібыта ведалі нямецкую мову. Таму, маўляў, фашысты і расстрэльвалі іх, каб яны не выведалі сакрэтаў. Пра Халакост тады яшчэ не гаварылі.



*Салдаты Пошукавага батальёна Міністэрства абароны Беларусі праводзяць раскопкі на месцы магчымага пахавання парэшткаў 9—12 тысяч чалавек, былых вязняў фашысцкага канцлагера і яўрэйскага гета, г.Слуцк, Мінская вобласць, 30 кастрычніка 2002 года.*

Зараз салдаты 52-га пошукавага батальёна шляхам раскопак імкнуцца вызначыць межы пахаванняў ахвяраў нацызму. Як патлумачыў старшы лейтэнант Трубека, на падставе раскопак будуць складзены акты на кожнае месца расстрэлаў, і ўжо гарадскія ўлады на падставе гэтых актаў павінны вызначыць, якім чынам увекавечыць памяць ахвяраў — абеліскам, мемарыялам ці проста сціплай каменнай глыбай з адпаведным надпісам.

Роце Аляксандра Трубекі ў Мазыры да канца кастрычніка належыць даследаваць ажно пяць месцаў масавых расстрэлаў. На тры з іх гарвыканкам адразу даў дазвол. А вось на раскопкі пахаванняў каля былой турмы СД і на колішніх габрэйскіх могілках дазволу доўгі час не было.

Намеснік старшыні гарвыканкама па справах будаўніцтва Валянцін Бягляк запэўніў, што выканкам ужо прыняў дадатак да ранейшага рашэння і тым самым адкрыў шлях вайскоўцам для пошукаў ва ўсіх месцах.

Між тым, на былыя габрэйскія могілкі, што паўз вуліцу Рыжкова, вайсковае падраздзяленне патрапіла не першым. Яшчэ да пачатку пошуку парэшткаў ахвяраў нацызму гарадскія ўлады Мазыра распачалі тут свае раскопкі. Паводле зацверджанага праекта, будаўнікі акцыянернага таварыства "Рагачоўгазбуд" цягнуць праз тэрыторыю колішніх могілак газаправод.

У размове прыезджыя рабочыя засведчылі, што гісторыя горада ім невядомая. Пра пахаванні на шляху пракладкі трубаў яны пачулі ўпершыню ад лідэра Сусветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў Якава Гутмана.

— Праект газіфікацыі горада, — лічыць спадар Гутман, — патрабуе тэрміновай карэкціроўкі, паколькі пракладка газаправода ідзе праз габрэйскія могілкі і праз пахаванні ахвяраў нацызму. Цяпер ужо дакладна вядома, што тут пахаваны ўдзельнікі супраціўлення, расстраляныя СД. На частцы могілак пахавана каля тысячы жыхароў Мазыра і ваколіц. І зараз па гэтых костках запраектавана пракладка газаправода.

Габрэйскія могілкі паўз сённяшнюю вуліцу Рыжкова церпяць двойчы. У 60-я гады мінулага стагоддзя гэтыя могілкі афіцыйна пераносілі ў іншае месца, а тут пабудавалі СШ №4, спартыўныя пляцоўкі, 9-павярховы жылы дом, краму. Аднак шмат асобных магіл і 18 брацкіх пахаванняў ахвяраў нацызму зраўняны з зямлёю. Цяпер вось тут, нягледзячы на пратэст Сусветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў, цягнуць яшчэ і газаправод.

— Ні адна дзікая жывёла не выкідвае косткі сваіх суродзічаў, — заўважае Якаў Гутман. — І ніводзін чалавек, які хоча лічыцца нармальным, не можа сабе дазволіць выкідваць косткі з зямлі. Але тое, што мы маем у Мазыры, і тое, што зусім нядаўна адбывалася ў Гародні, і што трохі раней адбылося ў Мінску і Слоніме, — гэта нават не дзікунства, а нешта больш жахлівае. Гэтага не дазвалялі сабе ні афганскія талібы, ні іншыя рэжымы. Гэта рабілі толькі савецкія ўлады і дазваляюць сабе іх паслядоўнікі ў Беларусі.

Наколькі слушныя разважанні, можна меркаваць і па такім факце з сучаснага жыцця Мазыра. Нядаўна ўлады выдалі дазвол на будаўніцтва прыватнага катэджа на месцы яшчэ адных старажытных габрэйскіх могілак блізу анкалагічнага дыспансера. У горадзе кажуць, што катэдж гэты праз падстаўную асобу ўзводзяць для аднаго з мясцовых начальнікаў. З катлавана тут таксама падымаюць на паверхню чалавечыя чарапы ды косці.

— І што, выкопваюць чарапы і косці? — здзівіўся ўжо знаёмы нам намеснік старшыні гарвыканкама Валянцін Бягляк. — Для мяне гэтая інфармацыя новая. Праверым!

Зрэшты, калі ўжо правяраць, то трэба ўважліва вывучыць, што пабудавана ў Мазыры на месцы яшчэ двух могілак — каталіцкіх і праваслаўных, якія таксама пацярпелі ў розныя гады. На адных, наколькі вядома, стаіць цяпер Палац культуры будаўнікоў, на другіх — стадыён СШ №7.

Мёртвым, пэўна, і сапраўды ўжо не баліць. А жывым?..

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*г. Мазыр.*

